

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 35 (63) 27 кастрычніка— 9 лістапада 1993 г. Кошт 10 руб.


## Лепшы помнік—наша памяць

**Не толькі 2 лістапада стане для нас днём жальбы. У апошнюю раніцу кастрычніка горад ушануе памяць памёршых і загінуўшых падчас Сусветнае вайны віцебскіх габрэяў.**

На месцы гета, што існавала ля цяперашняга РДК, а таксама ў Тулаўскім ірве, дзе расстраляныя тысячы тутэйшых яўрэяў, будуць закладзеныя камяні Памяці. У наступным годзе іх заменяць помнікі.

У раённым доме культуры адчыніцца выстава малавядомых дакументаў, звязаных з гісторыяй гета, трагедыяй нацысцкага генацыду.

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**



**У Віцебскай сінагозе.**

**УВОСЕНЬ 1920-га БЕЛАРУСЬ УСКАЛЫХНУЛА СЛУЦКАЕ ПАЎСТАННЕ. ЯНО ПАЧАЛОСЯ 27 КАСТРЫЧНІКА ЗБРОЙНЫМ ВЫСТУПЛЕННЕМ 1-га СЛУЦКАГА ПАЛКА БНР СУПРАЦЬ БАЛЬШАВІЦКІХ ВОЙСКАЎ. ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ ГЕРОЯМ-ПАЎСТАНЦАМ!**



## Пра незалежнасць, урад і выбары

**16 кастрычніка ў менскім Доме літаратара адбылася канферэнцыя некамуністычных і антыімперскіх сілаў Беларусі.**

Палітычнае становішча ў краіне ахарактарызавалі З. Пазьняк і А. Трусаў. З дакладамі і судакладамі пра крызіс беларускай эканомікі й шляхі выхаду з яго выступілі В. Алампіеў, Ст. Гусак, І. Нікітчанка. Тэму пераходнага кааліцыйнага ўрада закрануў У. Заблоцкі.

Прынятыя выніковыя дакументы «Пра стварэнне пераходнага кааліцыйнага ўрада і новыя выбары», «Пра абарону дзяржаўнай незалежнасці Беларусі».

**Наш кар.**


**На 2-й старонцы чытайце даклад З. Пазьняка на гэтай канферэнцыі.**


*Калонка палітычнага аглядальніка*

## Сучасная Беларусь: палітычныя партыі і перспектывы палітычнага жыцця рэспублікі

Сярод былых савецкіх рэспублік Беларусь аказалася найбольш кансерватыўнай і па рэакцыі палітычных структур, і па закасцянеласці масавай свядомасці ў вялізных мас насельніцтва на дэмакратычныя рэформы, што адбываюцца ў суседніх дзяржавах (Расіі, краінах Балтыі і Польшчы). «Чырвоная» наменклатура, яе лобі ў бізнесе і парламенце, артадоксы ў асяроддзі інтэлігенцыі ды «сталінскія сокалы» сярод пенсіянераў найболей агрэсіўна блакіруюць найменшы рух гаспадарства да рэформаў. Менавіта гэтыя сілы стварылі Беларускі вобраз «кансерватыўнай Вандэі».

Ці ёсць выйсце з сітуацыі, якая склалася? Безумоўна. Аналіз дзейнасці палітычных партый і рухаў на Беларусі паказвае, што расстаноўка сілаў ужо адбылася. Калі пад «левымі» ці «кансерватарамі» разумець прыхільнікаў камуністычнай ідэалогіі, адраджэння СССР і поўнай перавагі дзяржаўных форм уласнасці ў эканоміцы, а пад «правымі» альбо «дэмакратамі»—прыхільнікаў вольнага рынку ў форме «змешанай эканомікі» з перавагаю прыватнай уласнасці і акцэнтам на поўную незалежнасць Беларусі, адраджэнне ейнай нацыянальнай гісторыі, мовы й культуры, то ланцуг палітычных партыяў і рухаў «злева-направа» па ступені адыходу ад старой сістэмы будзе выглядаць так: **лева (радыкальна)-кансерватыўныя (камуністычныя)**—ПКБ, РСПС, Народны рух Беларусі, Славянскі сабор «Белая Русь»; **памяркоўна-кансерватыўныя (пракамуністычныя)**—Партыя сацыяльнай справядлівасці, Партыя народнай згоды, Аб'яднаная аграрна-дэмакратычная партыя, Беларускі навукова-вытворчы кангрэс; **сацыял-дэмакратычная**—БСДГ; **ліберальна-дэмакратычныя**—АДПБ, Рух за дэмакратычныя рэформы Беларусі; **нацыянальна-дэмакратычныя**—БНФ, НДПБ.

Пасля правалу «чырвона-карычневага» путчу ў Маскве ўрад В. Кебіча адыдзе канчаткова ад неафіцыйнай падтрымкі лева-радыкальных сіл, што яшчэ болей аслабіць іх пасля шоку маскоўскіх падзей 3—4 кастрычніка. Саўмінаўскія структуры, верагодна, паспрабуюць зрабіць асноўную стаўку на ўмеркаваных кансерватараў, што для дэмакратычнага лагера выгодней, бо гэтае будзе большай гарантыяй ад магчымай эвалюцыі беларускага кансерватызму ў бок рэакцыі. Аднак сапраўдныя дэмакратычныя рэформы на Беларусі будуць заставацца яшчэ некаторы час пад пытаннем, паколькі памяркоўныя кансерватары разлічваюць мадэрнізаваць старую сістэму, прыстасаваць яе да новых варункаў, што нерэалістычна і неразумна стратэгічна. Спікера беларускага парламента, , быць можа, чакае лёс экс-прэзідэнта СССР. Прынамсі, у адносінах да С. Шушкевіча сёння болей незадавальнення і з боку «левых», і з боку «правых» за яго спробу ўнесці «згоду» між «ужом и ежом». Што датычыць магчымага палітычнага блока сацыял-дэмакратаў, ліберальных дэмакратаў і нацыянал-лібералаў, то ён, на мой погляд, немажлівы. Надта вялікая розніца ў поглядах і тактычнай дзейнасці, і перш за ўсё, у адносінах да вялікага ўсходняга суседа, у галіне моўнай палітыкі і па пытанню аб прэзідэнцтве.

Па нашаму меркаванню, найболей разумным выйсцем з сітуацыі, што склалася, магло б быць адначасовае правядзенне рэферэндуму па праблеме «прэзідэнцкая ці парламенцкая рэспубліка» з выбарамі ў Нацыянальны сойм па мажарытарна-прапарцыянальнай сістэме для рашэння двух надзённых пытанняў—Канстытуцыі і новага выбарчага закону. Даверыць іхны лёс цяперашняму Вярхоўнаму Савету нельга. Ён нелегітымны і на дзве трацiны пракамуністычны. Адпаведнымі будуць Канстытуцыя і новы закон аб выбарах. Закліканні С. Шушкевіча да згоды зробяць тут сваю справу.

Дэмакратычныя арганізацыі рэспублікі не павінны абмяжоўвацца ідэяй кааліцыйнага ўрада. У ім могуць апынуцца ў большасці пракамуністычныя сілы, і Беларусь зноўку будзе ў хвасце падзеяў, заложніцай бясконцых канфліктаў на Усходзе.

**В. КОСМАЧ.**

*Рэзананс*

## Даручана праверыць

Абласной пракуратуры даручана правядзенне праверкі абставін разбурэння дома № 2 па завулку Кастрычніцкаму ў Віцебску (гл. «Выбар» № 22, 1993). Аб гэтым паведаміў у парламенцкую камісію па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны намеснік Генпракурора рэспублікі В. Юрэвіч.

З ягоных словаў вынікае, што праверяны дзеянні пракуратуры нашай вобласці ў адносінах да парушальніка законаў аб ахове помнікаў гісторыі і культуры Н. Мітрафанава, дзякуючы якому МПМК-51 знішчыла «Гарадзішча» і пашкодзіла «Селішча»—помнікі археалогіі на Гарадоччыне. Рэспубліканская пракуратура згадзілася з рашэннем абласной спыніць крымінальную справу супраць Мітрафанава, бо апошні «за свой кошт цалкам пакрыў прычынены ўрон».

**Ю. Т.**

*Весткі з раёнаў*

## Зона чужога ўплыву

Усё больш становіцца беларускіх гледачоў Санкт-Пецярбургскага тэлебачання. З пачатку кастрычніка на 25-цікіламетровую зону ўпэўненага прыёму пачаў перадаваць замежны канал ушацкі тэлерэтранслятар.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

## Чаго чакаць?

18 кастрычніка дыктар Віцебскага тэлебачання В. Пруднікаў частаваў запазьнелага гледача вінегрэтам перадачы «На ноч гледзячы». Паводле нудных маралізатарскіх рэпрызаў Пруднікава, глядач павінен быў засвоіць, што:

1. На Беларусі жывуць адно рускія.

2. Беларусам на ўсе выпадкі жыцьця трэба карыстацца цытатамі класікаў расейскай літаратуры (быццам сваіх няма).

Перадача пакінула ўражаньне снабісцкага зьлепка з Маскоўскага ТБ, гэтакі «а-ля Паліткоўскі—Лісьцьеў—Ксюша» з прымешкам Няўзорава. Як гэта ўсё далёка ад Беларусі і ад Еўропы. Хаця чаго чакаць ад расейскага правінцыяла?

**АЛЬГЕРД.**


**Наступны нумар газеты выйдзе 10 лістапада 1993 г.**

# Колькі Ільічоў у Талачыне?

Неяк прачытаў у «Выбары», што ў адным з райцэнтраў Віцебшчыны, здаецца, у Докшыцах, ажно два помнікі У. Леніну. Аўтар карэспандэнцыі з сарказмам гаворыць аб гэтым, маўляў, занадта многа для невялікага гарадка.

А на самой справе ці многа гэта? Зразумела, не. Так лічаць кіраўнікі, былыя і цяперашнія, Талачынскага раёна, якія зрабілі ўсё магчымае для таго, каб жыхары райцэнтра сутыкаліся з правадыром першай у свеце сацыялістычнай рэвалюцыі на кожным кроку, ад малых год і да глыбокай старасці. Не з самім Уладзімірам Ільічом, зразумела, а з яго вобразам, гэта значыць, бюстамі і помнікамі. Дзеля гэтага яны далі загад перанесці помнік Леніну з гарадскога парка Талачына да сярэдняй школы № 2. Каб кожнай раніцы дзятва, спяшаючыся ў школу, бачыла Уладзіміра Ульянава на высокім пастаменце, нібы блаславляючага падрастаючае пакаленне на новыя здзяйсненні ў імя нашай «светлай будучыні». Нічога, што мы не будуем ужо камуністычнае заўтра. Раённыя кіраўнікі разам з наменклатурным Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь яшчэ поўныя надзеі, што талачынцы будуць працягваць узводзіць светлы будынак камунізма.

Таму ўжо ў перыяд перабудовы яны пастараліся ўзвесці перад Домам Саветаў мармуровы бюст У. Леніна на мармуровым жа п'едэстале. А калі хто з-за вышыні не ўбачыць яго, далі загад паставіць яшчэ адзін бюст правадыра насупраць уваходных дзвярэй Дома Саветаў у фае. Прыедзе дзядуля ці бабуля з аддаленай вёскі да раённага начальства са скаргай на сваё гаротнае жыццё—ім прама ў вочы праніклівае гляне Уладзімір Ільіч: нічога, маўляў, створаная мной партыя камуністаў яшчэ паклапоціцца аб вас...

Не забыліся кіраўнікі раёна і пра калгаснікаў. Менавіта для іх ля канторы былога калгаса імя Леніна на паўночнай ускраіне Талачына таксама ўзведзены бюст правадыру. Не адзін год слава аб гэтым калгасе, які ўзначальвае Герой Сацыялістычнай працы Л. Навумава, грымела далёка за межамі раёна і нават рэспублікі. Гэта пазней ужо, калі людзі схамянуліся і дружна сапхнулі Лідзію Андрэеўну з утульнага старшынёўскага крэсла, стала ясным, што яна мела такое ж права насіць залатую Зорку героя, як Леанід Ільіч Брэжнеў—пяць. Апусцелыя вёскі з бездапаможнымі састарэлымі, малапрадуктыўныя жывёлагадоўчыя фермы, на адной з якіх толькі і ўбачыш малакаправод, нізкаўраджайныя палі —вось што ўяўляе сабой сёння былы «гераічны» калгас.

Толькі ж хіба ён зараз адзін у такім стане? І здзіўляе абыякавасць да акаляючага жыцця ў позірку з пастамента Уладзіміра Ільіча, нібы, гэта яго нікольні не датычыць.

Спакойны, здаецца, нават крыху нахмураны Ільіч на пастаменце ў скверыку ля прахадной райаграпрамтэхнікі. Па задумах раённага кіраўніцтва, правадыр павінен быў натхняць рабочых на ўдарную працу. А яны чамусьці не натхняюцца, вось і незадаволены Уладзімір Ільіч.

Пяць бюстаў і помнікаў яму ў Талачыне. Здзівіла, што нават такі замшэлы камуніст, былы работнік РК КПБ А. Шнэйдар, калі я сказаў яму аб гэтым, жахнуўся:

—Ажно пяць? Мнагавата...

І я так жа думаю: мнагавата. І большасць талачынцаў прытрымліваецца падобнай думкі. Цяпер ужо кожнаму зразумела, што партыя камуністаў, якую стварыў У. Ленін, дрэнны сябар рабочых і сялян, без яе жыццё больш шчаслівым і радасным будзе.

**М. БАШАРЫМАЎ.**

# Ай-яй-яй, Вячаслаў Францавіч!

У маскоўскай «Независимой газете» за 5 кастрычніка пабачыў я інтэрвію зь Вячаславам Францавічам Кебічам. Ну, думаю, трэба пачытаць: усё ж такі наш родны прэм'ер. Вось чытаю я, а сам лаўлю сябе на думцы: няправільна, Вячаслаў Францавіч, Вы неяк гаворыце.

На пытаньне карэспандэнта аб расейска-ўкраінска-беларускім пагадненьні трох прэм'ераў Кебіч адказаў:

—Справа ішла так: я зьвязаўся з расейскім віцэ-прем'ерам Шохіным у 14.00, у 23.00 я пагаварыў з Кучмой, і ў 10 раніцы наступнага дня мы ўжо былі ў Маскве. Вось так вырашалася пытаньне.

На заўвагу карэспандэнта аб крыўдзе Сяргея Цярэшчанкі, прэм'ер-міністра Казахстана, у адсутнасьць якога адбылася сустрэча, наш Старшыня Савета Міністраў зазначыў:

—Так, у Казахстане склалася ўражаньне, што зноў заключанае пагадненьне тыпу белавескага і зноў Казахстан застаўся ўбаку. Рэч у тым, што гэтым часам усе кіраўнікі Сярэдняй Азіі й Казахстана ўдзельнічалі ў перамовах у Стамбуле, дзе таксама было прынятае рашэньне аб стварэньні сваёй эканамічнай, прасторы. І ў Цярэшчанкі зьявілася думка, што мы нібыта ў процівагу нарадзе ў Турцыі склікалі сваю нараду. На самой справе гэта чыстая выпадковасьць.

Ай-яй-яй, Вячаслаў Францавіч! Дзіўная, мякка кажучы «выпадковасьць» пры такой апэратыўнасьці: сёньня сазваніліся—заўтра сабраліся. Мяне проста бянтэжаць такія «выпадковыя» супадзеньні.

Зрэшты, бянтэжыць ня толькі гэта. Вось прыкладам пытаньне з таго ж інтэрвію, ды адказ спадара Кебіча, на яго.

—Ці ўзьнікаюць складанасьці ў стасунках праваслаўнай і каталіцкай цэркваў у Беларусі?

—У нас няма ніякіх праблемаў з праваслаўем. Тут поўнае сяброўства, сказаў наш прэм'ер і адзначыў праблемы з каталіцызмам.— Казаньні ў нашых касьцёлах чытаюцца ў польскай мове. Гэта ня што іншае, як прыўнясеньне сваёй ідэялёгіі на тэрыторыю Беларусі.

Няхораша, Вячаслаў Францавіч, забывацца на тое, што ў праваслаўных цэрквах казаньні кажуцца таксама не па-беларуску, а ў мове Расейскай Фэдэрацыі, што беларускамоўных сьвятароў сярод каталікоў усё яшчэ больш, чым сярод праваслаўных; што грэка-**каталіцкая** (вуніяцкая) царква ў нас цалкам беларуская...

**Зьміцер Дз.**

*Колькі занатовак на палях*

## «Нет на вас войны!»

«Каб тыя людзі, што ва ўладзе, прайшлі вайну, як вы, «афганцы» ці мы, ветэраны Айчыннай, то цяперашняга хаосу ў нас не было б». (З размовы перад пачаткам канфэрэнцыі ветэранаў вайны ў Афганістане).

А ў хаос вайны, забіваць людзей і знішчаць кішлакі, што падтрымлівалі маджахедаў, хто пасылаў? Камуністы-ветэраны Другой сусветнай Брэжнеў, Усцінаў...

## Словы. Справы.

Перад пачаткам той жа канферэнцыі зала была ўсеяна ўлёткамі СС «Белая Русь». Ніхто, здаецца, распаўсюджанню не перашкодзіў. Ну і добра. Толькі нашто тады трэба было падкрэсліваць непалітычнасць мерапрыемства, як тое рабілі многія выступаючыя?

## Самыя шалёныя

«Мы, «афганцы», самыя шалёныя праваднікі міру, дружбы, братэрства на Зямлі. Успомнім, як мы былі ў Афганістане. Мы пілі чай з дэханамі, мы будавалі. Мы сапраўды дапамагалі» (З выступу).

І таварыш Руцкой таксама «самы шалёны»?

## Хто папрасіў дабаўкі?

«... и мифических праздников в виде победы народов одной республики над другой». Такую дабаўку да перадапошняга сказа Зварота канферэнцыі са здзіўленнем прачытаў на старонках «Віцьбічаў». У копіі дакумента, падпісанага ўдзельнікамі імпрэзы і прынесенага імі ў рэдакцыю «Выбара», такіх слоў няма. У чым справа?

**Назіральнік.**



*А раней было з кім пагаварыць...*

# Апора на ўласныя сілы. Ці такі дрэнны лозунг?

Энергетычны крызіс. Недахоп электрычнасці. Брак мазута. Адсутнасць газа.

Дзіўна гучаць гэтыя словы на Беларусі.

Купляем электраэнергію за мяжой. Прычыны? За дзесяцігоддзе не пабудавана ніводнай больш-менш значнай электрастанцыі.

Няхватка паліва для ДРЭС, ЦЭЦ? З 1987-га энергетыка рэспублікі адмовілася ад торфу. Ад сыравіны, якой на беларускай зямлі пара мільярдаў тон! Ад паліва, на якім працавала да шасцідзесятых гадоў больш паловы цеплавых станцый.

Поўдзень краіны мае два вялізныя радовішчы гаручых сланцаў. Іхніх запасаў хапіла б, пэўна, не на дзесятак-другі гадоў актыўнай эксплуатацыі. Але неруш. Энергетычная крыніца не выкарыстоўваецца.

Затое зноў і зноў чуваць пра паліўна-энергетычную залежнасць ад Усходу. Не-не, ды ўсплывае ідэя будаўніцтва АЭС. Усе, здаецца, разумеюць небяспечнасць атамнай. Але не многія ўсведамляюць, што і ў такім выпадку прыйдзецца набываць паліва—на гэты раз радыеактыўнае—далёка за межамі краіны: у Расіі, Нігеры, ПАР ці Кітаі... За што?

**Назіральнік.**

**Іван ЛАЗУКА**

# Японцы ля Дошкі гонару

Быў такі выпадак,
Кажуць у народзе,
Пабылі японцы
На нашым заводзе,
Усё паглядзелі,
Усё запісалі,
А ля Дошкі гонару
Неяк моўчкі сталі,
Галавы схілілі,
Капелюшы знялі.
«Што такое з вамі?»—
У іх запыталі.
«Мінута маўчання,—
Адказаў галоўны,—
Памерлі тыя людзі,
І нам не ўсёроўна».
«Што вы, яны жывы,
На многае здатны,
Тут жа іх партрэты—
Працуюць выдатна».
«А ўсяго іх колькі?»—
Запытаў карэктна.
«А ўсяго сем тысяч»,—
Адказаў дырэктар.
Падлічыў японец
Партрэты на Дошцы,
Тут было іх дваццаць,
Задумаўся штосьці.
Але ўсё ж цікаўным
Госцем аказаўся,
«Што ж робяць астатнія?»—
Зноўку запытаўся.
Вось такі назола,
Сядзеў бы лепш дома...
Што яму сказалі—
Тое невядома.

*З неафіцыйных крыніц*

## 21-га а 21-ай. Віцяблянін віцябляніна

21 кастрычніка ўвечары а 9 гадзіне ў расійскай вайсковай частцы 92113, што ў Зялёным гарадку, жаўнерам тэрміновае службы застрэлены саслужывец. Абодва хлопцы—віцябляне. Па некаторых звестках, пагаршэнне дысцыпліны пры абыходжанні з агнястрэльнай зброяй у гэтай частцы абумоўлена тым, што афіцэрскі і прапаршчыцкі састаў найперш заняты праблемай пабудовы гаражоў ды дачаў.

**КАЛЮСЬ.**

*У мясцовых філіях*

## Нас наведала начальства. «Бацькі» горада слухалі БСДГ

На мінулым паседжанні гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» панавала дэмакратыя. Сацыял. Перад амаль поўнай залай у сто чалавек выступілі сябры Цэнтральнай Рады БСДГ У. Кулажанка, М. Кійка, М. Статкевіч.

**М. В.**

## Так

У Віцебску ўтворана філія Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Нарэшце на частае пытанне да мясцовых дэмакратаў «Ці ёсць у горадзе БЗВ?» можна адказаць: «Так».

**С. Ю.**

# ГОРАД СЯРЭДНЯВЕЧЧА

Шмат прайшло часу пасля правядзення ў Віцебску навукова-тэарэтычнае канферэнцыі «Urbi et Orbi. Горад: гісторыка-архітэктурныя й культуралагічныя аспекты». Тады, амаль год назад, навукоўцы з розных мясцінаў вырашылі выпускаць на бачынах нашае газеты падборку матэрыялаў пра розныя беларускія гарады. Сёння—першы крок для здзяйсненьня жаданага. Спадзяёмся, не апошні.

Быў час, калі кругагляд звычайнага сярэдняга чалавека не выходзіў па-за межы навакольляў ягонай вёскі ці гораду. Ды й зараз жыхары любой вёскі звычайна ведаюць толькі некалькі бліжэйшых вёсачак, раённы цэнтар, вабласны і, часам, Менск, Маскву, Рыгу, Піцер... Жыхары вабласнога ці раённага цэнтраў, занятыя будзённым жыцьцём, таксама ведаюць крыху сваю «вёску», Менск ды й некаторыя буйныя гарады былога СССР, куды ім было прасьцей даехаць. Ці не таму і зараз жывуць і ўсё болей ажыўляюцца рэгіянальныя культурныя стэрэатыпы і забабоны, якія часам уяўляюць зь сябе зусім не жартачкі? Кожны вялікі рэгіён нашае дзяржавы—гэта практычна асобная краіна па сваіх культурных характарыстыках, і зьвязвае нас зараз найперш ірацыянальнае пачуцьцё сябе адзіным народам—беларусамі. Але ці надоўга хопіць гэтае ірацыянальнае ідэі? У Віцебску і Берасьці, Менску і Горадні і г. д. у слова «Беларусь» укладаецца розны сэнс. Кожны заве беларускім менавіта свой тып культуры, розьніца жа паміж імі такая вялікая, што ані агульная ў пэрспэктыве мова, ані супольная дзяржава іх не скасуе і не паменшыць. Таму стабільнасьць нашаму агульнаму супольніцтву дасьць толькі ўсьведамленьне факту культурнай самастойнасьці і самакаштоўнасьці кожнага з нас. Жывое жыцьцё Беларусі непазьбежна павінна ўключаць у сябе ўзаемапранікненьне розных ейных культураў, але перавод іхніх адносінаў у форму канкурэнцыі культураў (Захад—Усход, сталіца—правінцыя, Палесьсе—Віцебшчына і г. д.) можа разарваць слабое цела агульнае беларушчыны. Таму, можа, лепшым выйсцем з надыходзячай пэрспэктывы рэгіянальна-канфэсыянальнага суперніцтва сталася бы агульная для ўсіх рэгіёнаў жадаемая імі канструктыўная праграма, выканаць якую па-асобку яны бы былі няздольныя. Магчыма, такой праграмай, якую даўно і паўсюдна выношвалі тутэйшыя патрыёты, можа стацца ідэя адбудовы сваех разбураных чужынцамі гарадоў. Гэтую праграму ў нашых цяжкіх эканамічных умовах немажліва выканаць без кансалідацыі вакол яе ўсіх тутэйшых культурных плыняў і без інтэграцыі ейных носьбітаў у кантэкст рэальнага палітычнага жыцьця кожнага рэгіёну. Толькі праз стварэньне адпаведнай сучаснасьці рэгіянальнай ідэялёгіі і палітычнае ўлады можна адрадзіць свае гарады, а гэтае значыцца—ідэя Старога гораду абнаўляе і адбудоўвае нас, працуе не на памяць, а на рэчаіснасьць. Нікому не патрэбныя проста будынкі, людзям трэба рэчаіснасьць і будучыня. Менавіта дзеля гэтых цывілізаваных і маралёвых рэчаіснасьці і будучага трэба аднаўляць мінулае.

Такая буйная праграма ня проста стымулюе рост рэгіяналізмаў, а накіроўвае іх на стваральнае супрацоўніцтва аднаго з адным. У працэсе сумеснай адбудовы сваіх бацькаўшчынаў мы непазьбежна пазнаёмімся паміж сабой, абменяемся патрэбнымі сабе дасягненьнямі, запаважаем і, мы ўпэўнены, палюбім адно адное. А што такое нацыя, як не вялікая сям'я, дзе родзічы паважаюць і любяць адно адное? Таму менавіта праз аднаўленьне ў першую чаргу саміх сябе, паставіўшы перад сабою грандыёзную мэту, з дапамогай суседзяў, мы пабудуем ня проста свой дом ці замак, а вёску ці краіну—нацыю. І ня можа быць моцнай нацыі, краіны, дзяржавы бяз моцных гарадоў, рэгіёнаў і вёсак.

# ГОРАД У КАНТЭКСЬЦЕ СЪПЕЦЫФІЧНАГА СЯРЭДНЕ-ЭЎРАПЕЙСКАГА СУПОЛЬНІЦТВА XVI—XVIII СТ.СТ.

Горад, як паселішча людзей, якія сьпецыялізуюцца на рамеснай вытворчасьці і гандлі на працягу 700 год зьяўляўся ва ўсходніх славянаў натуральным цэнтрам для навакольных вёсак. Да канца XV ст. горад і ягоная воласць уяўлялі зь сябе ўзаемаінтэграваны комплекс, адзінае супольніцтва, палітычнай формай якога выступала або кампактнае княства, або кіруемая вечам гарадзкая рэспубліка. Звычайна кожны такі поліс меў у сваёй палітычнай структуры абедзьве палітычныя сістэмы, проста адная зь іх была вядучай. Так, пры моцным вечы меўся слабы князь у Ноўгарадзе і пры моцным князі захоўвалася веча ў Полацку. Любая дзяржаўна-палітычная структура, большая за такі поліс, была няўстойлівай, трымаемай толькі наяўнасьцю моцнага вонкавага ворага, або часова моцнай акупацыйнай па адносінах да полісу палітычнай групоўкі князкай дружыны, напрыклад. Ніжэйшай мяжой распаду такога арганізму быў поліс, велічыня якога ў розныя часы ў розных рэгіёнах магла быць рознай і залежала ад ступені ягонай унутранай эканамічнай інтэграцыі, г. зн. ад тыпу выкарыстоўваемай у ім вытворчай тэхналёгіі ў канкрэтных прыродных умовах.

У сярэдзіне XV ст. на абшары вялікай раўніны ад Чэхіі і Польшчы да Масквы адбыўся распад былых буйных дзяржаўных арганізмаў на часткі, якія ў сваю чаргу мелі тэндэнцыю да далейшай дэзынтэграцыі. Найбольш моцна дадзены працэс ахапіў галоўную дзяржаву рэгіёна—ВКЛ, дзе адрадзіліся паўднёвыя княствы і набралі моц астатнія. Горад адкрыта другі раз у гісторыі пасьля краху Кіеўскай Русі выйшаў на першы плян грамадзкага жыцьця, імкліва замяняючы сваім полісным «традыцыяналізмам» былую вялікалітоўскую ідэю і сваёй палітычнай моцай былую вяліка-князкую палітычную эліту. Вытворчая тэхналёгія, што выкарыстоўвалася на асноўнай частцы рэгіёну, была аднатыпнай і знаходзілася на блізкіх узроўнях разьвіцьця, таму ў маштабе рэгіёну ўсталёўваліся аднатыпныя полісныя супольніцтвы, якія адрозьніваліся толькі палітычнымі сістэмамі і адпаведнымі культурна-ідэялягічнымі рысамі. Настаў росквіт гораду як гегемона сваёй воласьці, які кіраваў ёю і панаваў наю ёю, быў ейным эканамічным і духоўным цэнтрам, абаронцам і судзьдзёй.

У канцы XV ст. зьмянілася геапалітычная сітуацыя: да дадзенага рэгіёну наблізілася Турцыя, якая напрасткі, або праз свайго новага васала—Крымскае ханства, стварыла перашкоду самому полісу, бо пастаянныя разарэньні ад іхніх набегаў вялі да тэхналягічнага рэгрэсу, а палітычнае падпарадкаваньне Турцыі і Крыму прывяло б да ліквідацыі дасягнутай полісамі рэальнай незалежнасьці з боку адзінага буйнога ваеннага клясу гэтых краінаў. Горад быў галоўным ворагам гэтае пагрозы і носьбітам новай інтэграцыйнай ідэі, што прывяло да новага ўзмацненьня ВКЛ, Польшчы і ўзьнікненьня Масковіі. Свая надполісная дзяржава была выгадней і таньней за надта моцных султанаў. Гэткім чынам горад быў носьбітам ідэі рацыянальнай дэмакратычнай адносна полісаў дзяржавы. Толькі ў Масковіі ваенны кляс здолеў узьняцца над полісам на падставе рэлігійнай ідэі і стварыць своеасаблівы аналяг тагачаснай Турцыі ў выглядзе праваслаўнай дваранскай дзяржавы. Але больш важнай для дадзенага рэгіёну зьявай выступіла рэвалюцыя коштаў пасьля засваеньня эўрапейцамі шэрагу вялікіх геаграфічных адкрыцьцяў канца XV ст.

Прыток з калёніяў аграмадных колькасьцяў каштоўных металаў прывёў да рэзкага павелічэньня колькасьці ваенных клясаў Гішпаніі, Партугаліі і зьвязаных зь імі краінаў. Гэтыя ваенныя клясы забясьпечвалі сябе рэзкім павелічэньнем коштаў на сельскагаспадарчыя прадукты: у 10—30 разоў за І палову XVI ст., што стымулявала рост сельскай гаспадаркі, ейны попыт на новыя прылады працы і адпаведна настаў рэзкі рост гарадоў. Неабходнасьць сумеснага супрацьстаяньня Турцыі дадаткова сьцягнула ў канцы XV-пачатку XVI ст. Эўропу ў больш менш адзінае палітычнае цела пры лідэрстве гішпанскіх каталіцкіх Габсбургаў. А ў межах гэтага палітычна ўстойлівага арганізму за 50 год адбылася моцная эканамічная сьпецыялізацыя розных моцных частак: Гішпанія ваявала за ўсіх, Нідэрлянды гандлявалі і рабілі рамесныя тавары, Скандынавія плавіла руду, а ВКЛ і Польшча пастаўлялі хлеб і месныя тавары. Іншыя краіны і рэгіёны таксама паступова знаходзілі сваё мейсца ў новае Эўропе.

Выгоды ад рэвалюцыі коштаў зрабілі эканамічна скрайне выгоднай справай заняткі ў нашым рэгіёне сель-




скай гаспадаркай для вывазу ейнай прадукцыі ў гарады і арміі Заходняе Эўропы. Узамен адтуль везьліся вельмі якасныя вырабы з мэталу, тканіны і іншыя рамесніцкія тавары, што забяспечвала рэзкі прагрэс у сельскагаспадарчай тэхналёгіі, але на базе адмовы ад эканамічнай аўтаркіі (замкнёнасьці на сабе) ў бок агульнае Эўропы. Распачалася барацьба за зямлю, а значыцца за развал поліса, якому ня быў патрэбны пасрэднік паміж селянінам і горадам у выглядзе шляхеціча-землеўладальніка, што падрываў гандлёвую манаполію горада.

Ваенны кляс разглядаемага абшару, карыстаючыся сваёй грамадзкай неабходнасьцю ў сувязі з турэцкай пагрозай, здолеў дабіцца ў шэрагу рэгіёнаў ВКЛ стварэньня фальварачнай сістэмы і ўвядзеньня там прыгоньніцтва (канчаткова ўведзенае па Статуту 1588 г.): у Панямоньні і Пабужжы перш найперш. У другіх рэгіёнах рынак усёроўна бурыў поліс: так, у Падзьвіньні і Падняпроўі сяляне напрасткі выходзілі з таварамі на Рыгу або зьвязаную з ёю скупшчыну, а на Валыні Астрожскія гэтае зьдзейсьнівалі збольшага самі, ваеннай моцы ім на падтрыманьне сваёй манаполіі хапала.

Узбагацелая на фальварку шляхта Захаду ВКЛ пасьля разарэньня Масквою й татарамі нешляхецкіх спачатку рэгіёнаў ВКЛ распаўсюдзіла за XVI ст. сваю палітычную сістэму і туды. Так узьнікла шляхецкая дзяржава і супольніцтва, а потым—і ейная Рэч Паспалітая. Для гэтага супольніцтва было характэрнае: паўсюднае ўвядзеньне прыватнай шляхецкай уласнасьці на зямлю, гвалтоўнае прымацаваньне да яе сялянаў, імкненьне пераўтварыць іх у плянтацыённых рабоў на шляхецкіх фальварках, распаўсюджваньне гандлёвага манапалізму купецкіх фірмаў, што зьбіралі экспартны тавар і разьмяркоўвалі імпарт напрасткі, часта мінаючы гарады, зьвядзеньне ролі гарадоў да ўзроўню складзкіх пунктаў манапалісцкіх шляхецка-купецкіх груповак. Манапалізацыя дадзенага тавараабмену была абумоўленая наяўнасьцю толькі трох буйных партоў на Балтыцы, праз якія ён ішоў, і завязанасьцю яго збольшага на Галяндыю. Нідэрлянды і рэгулявалі кошты, пераўтвараючы кантынентальных купцоў і шляхту ў сваіх гандлёвых агентаў і наёмных кіраўнікоў іменіяў.

Супрацьстаяньне галяндзкім ці, лепей, пратэстанцкім пазьней манапалістам урэшце яднала шляхту і гарадзкое купецтва. Прарвацца на эўрапейскі рынак напрасткі можна было толькі заваяваўшы марскую гегемонію на Балтыцы, бо праз Балтыйскае мора ў XVI—XVII ст.ст. праходзіла каля 2/3—3/4 эўрапейскага тавараабароту. Галяндыя сама была ў гэты перыяд адной з самых моцных марскіх дзяржаваў Эўропы, а на Балтыцы яна падтрымоўвала слабых знутры і маланаселеных Данію і Швецыю. Таму наяўнасьць менавіта шляхецкай ваяўнічай дзяржавы, адпавядала інтарэсам гарадоў Сярэдняе Эўропы. Такі антыкаляніяльны сацыяльны саюз быў настолькі выгодны гарадам, што тыя не надта супраціўляліся абмежаваньню сваёй самастойнасьці шляхтай. За гэтае вядучая частка гараджанаў атрымала магчымасьць выйсьці па-за межы полісу і стварыць свае гандлёвыя карпарацыі ў маштабе вялікіх рэгіёнаў і нават краіны. Больш таго, калі яны гэтага не рабілі самі, іх праглыналі канкурэнты або замежныя манапалісты. Гарадзкі патэнцыял павялічваўся. але пераходзіў у значнай меры ў нацыянальны негарадзкі капітал, які напрасткі меў доступ да кіраваньня усёй дзяржавы і ён падпарадкоўваў сабе полісны пласт грамадзтва.

Полісы былі галоўным супраціўнікам шляхецкага варыянту палітычнай сістэмы працуючага на сельскагаспадарчы экспарт супольніцтва нашага рэгіёну, бо яны разбівалі ўніфікацыйныя, манапалісцкія законы разьвіцьця гаспадарства і супольніцтва. Рэгіён мог разьвівацца гэтым чынам толькі ва ўмовах палітычнай стабільнасьці, права забясьпечыць якую ў маштабе яго адваявала ў XVII ст. шляхта. Хаця ў прынцыпе маглі сябе зашанаваць і Маскоўскі або Наўгародзкі варыянты такога супольніцтва.

Шляхта разбурыла полісы гвалтоўным увядзеньнем прыгоньніцтва, падаўленьнем палітычнага сэпаратызму князёў і магнатаў, недапамогай палітычным супраціўнікам пад час варожых набегаў. А такса-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

# ГОРАД У КАНТЭКСЬЦЕ СЬПЕЦЫФІЧНАГА СЯРЭДНЕ-ЭЎРАПЕЙСКАГА СУПОЛЬНІЦТВА XVI —XVIII СТ.СТ.

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

ма стварэньнем шырокай сэткі пазагарадзкога гандлю. Другім сродкам аслабленьня полісу было наданьне магдэбургскага права гарадам і мястэчкам. Гэтае права прыходзіла на зьмену традыцыйнаму вечавому праву і ладу. Яно замыкала гарадзскую абшчыну на сабе, адрывала ад воласьці, давала гораду за гэтае шмат прывілеяў, якія пераўтваралі яго ў агрэсіўную гандлёвую карпарацыю, або вага простых рамесьнікаў была слабейшая за вагу купцоў. Не рамяслом жыў горад, хаця і яно расло. Шляхта і купцы стрымлівалі ягоны рост імпартам больш танных і якасных заходне-эўрапейскіх тавараў. Таму ахопленая гэтым правам грамада не імкнулася дапускаць у свае шэрагі чужых, не жадаючы зь імі дзяліцца і так невялікім даходам. Таму і ахоплівала магдэбургскае права толькі 20—30 % гараджанаў, а астатнія жылі на прыватных юрыдыках. Горад не імкнуўся болей стаць цэнтрам воласьці, бо большы даход давала манапольная эксплуатацыя ў саюзе са шляхтай сялянаў якога-небудзь рэгіёну. Горад стаўся мейсцам ня стольткі гандлю і рамяства, колькі мейсцам складзіраваньня і разьмеркаваньня экспартна-імпартных тавараў. Места перастала быць галоўным абаронным цэнтрам, за выключэньнем сьведама пабудаваных шляхецкай дзяржавай гарадзкіх замкаў: магнацкія замкі былі мацнейшыя. Горад пасьля магдэбургскага права, уніі перастаў быць крыніцай права, ёю стаўся шляхецкі сойм і шляхціч у сваім фальварку. Горад раствараўся ў супольніцтве, у правінцыі, у вёсцы, ён таму сьцягваў усё супольніцтва ў адзінае цэлае, а не драбіў, хаця полісны пласт гораду і воласьці захоўваўся, але ён адышоў на другі плян. Горад стаўся не імпульсатарам полісных лякальных ідэяў, а мейсцам канцэнтрацыі багемы, інтэлектуалаў, рэлігійных і культурных дзеячоў, якіх цікавіў ня стольткі сам горад, колькі краіна і нават уся Эўропа. Прыкладамі гэтага могуць выступіць гарадзкія праваслаўныя брацтвы і іезуіцкія асяродкі.

Гэткім чынам, з узьнікненьнем фальварку і адзінага эўрапейскага эканамічнага арганізму горад у Сярэдняй Эўропе перастаў быць цэнтрам наваколья і носьбітам сэпаратыстычных грамадзкіх памкненьняў. Сярэднеэўрапейскі горад эпохі сталага сярэдневечча ўяўляў з сябе расслоенае грамадзтва, тон у якім задавалі арыентаваныя на экспарт сельска-гаспадарчых тавараў купцы. Прымушаныя дзеля супрацьстаяньня манапалісцкім памкненьням замежных фірм і пайсьці на сацыяльны саюз са шляхтай, яны пераўтварылі гарады ў падпарадкаваныя шляхецка-купецкім аб'яднаньням паселішчы, якія спрыялі кансалідацыі шляхецкага ладу і разьбіралі антышляхецкі супрацію магнатаў, сялянаў і полісныя часткі гараджанаў. На зьмену полісная структуры супольніцтва прыйшла саслоўная, а гарады сталіся цэнтрамі канцэнтрацыі ейнай культуры і мейсцамі ўніфікацыі яе. Горад перастаў быць самастойнай ад краіны зьявай, гарады склалі арганізаваны комплекс сістэмаў манапольнай эксплуатацыі сваіх рэгіёнаў, якая супрацьстаяла замежным манапалістам, у яе межах склалася іерархія гарадоў, дзе кожны займаў сваё мейсца ў залежнасьці ад ролі ў агульным гандлі з Заходняй Эўропай. Гарады ўпершыню сталіся эканамічным і культурным яднальнікам Сярэдняе Эўропы.

**Юры ШАЎЦОЎ,**
**Вільня**

# РАТУША

Ратуша... Што ў гэтым слове для нас? Незразумелая, але прыгожая назва, найменне газеты, будынак для старажылаў. Само слова паходзіць ад нямецкага (ратхауз), дзе рат—гэта «сход», а хауз—«будынак, памяшканне, альбо будынак для сходаў». Упершыню гэты тэрмін з'яўляецца ў XII—XIII ст. ст. пад час барацьбы жыхароў заходнееўрапейскіх гарадоў за правы самакіравання. Менавіта тады юрыдычна афармляюцца вольнасці і абавязкі жыхароў. Найбольш дасканала яны былі аформлены ў нямецкім горадзе Магдэбургу, адкуль і пайшла агульная назва гарадскога самакіравання—магдэбургскае права. Па гэтаму праву ў горадзе абіраўся магістрат які складаўся з радцаў і лаўнікаў, на чале якіх стаяў бурмістр. Радцы вырашалі розныя адміністрацыйныя пытанні (збор падаткаў, дарожнае будаўніцтва і інш), а лаўнікі—судовыя справы. Калі апошнія не маглі вырашыць спрэчнае пытанне, да іх на дапамогу прыходзіў замкавы, ці старасцянскі, суд.

Варта адзначыць, што традыцыі самакіравання былі даволі моцнымі ў беларускіх гарадах і мястэчках. Магілёў атрымаў магдэбургскае права згодна каралеўскаму прывілею ад 28 студзеня 1577 года, які абумоўліваў герб у выглядзе вежы мураванай вайсковай узвездзенай. Магчыма, што такая вежа (данжон) існавала ў той час у Магілёве.

Відаць, у гэты ж год і был пабудаваны драўляны будынак, які знаходзіўся ў старым горадзе недзе побач з каралеўскай брамай. Драўлянай ратушы не шанцавала, за перыяд у менш за стагоддзе яна некалькі разоў была знішчана татарамі. У 1679 г. на новым месцы —рынычным пляцу—пачалося будаўніцтва мураванага будынка. Сумленнымі тутэйшымі майстрамі Ігнатам, Феськай і інш. Ратуша —сімвал вольнасці, самакіравання, уласнай годнасці і гонару. У ёй не раз вырашаўся лёс горада і асобных людзей. Па ёй пазнавалі места і звяралі час. Ейны набатны звон не аднаразова заклікаў да абароны ці на лёсавызначальную раду.

І ўсё гэта мэтанакіравана знішчалася, выбівалася з памяці беларускага народа на працягу двухсот гадоў. А пачалося яшчэ з першага, так званага, падзелу Рэчы Паспалітай, што адбыўся ў 1772 г. Потым былі яшчэ два ў 1793, 1795 г. г. Па сутнасці гэта былі захопы, пад час якіх знішчаліся святыні, памяць. Ф. Энгельс пісаў наконт гэтых так званых падзелаў наступнае: «Тры чорных арлы—Расея, Аўстрыя і Прусія, накінуліся на Рэч Паспалітую, у якой у той час былі звычайныя праблемы дзяржавы, што знаходзілася на пераходным этапе ад феадалізму да капіталізму, і паабціналі яе, але расейскі арол на той час быў мацнейшы і таму адхапіў больша кавалак».

Адбываўся працэс знішчэння гістарычнай памяці. У 1857 г. па асабістаму загаду Мікалая І была знішчана менская ратуша, каб не згадваць менчукам аб былых вольнасцях. Працяг такой палітыкі генацыду так званымі барацьбітамі за ўсеагульную роўнасць прывёў у XX ст. да знішчэння помнікаў гісторыі і культуры. Сумны лёс напаткаў самыя выдатныя помнікі архітэктуры Магілёва—Іосіфаўскі сабор, Багаяўленскую царкву, ратушу. Ліпеньскай раніцай 1957 г.; нягледзячы на тое, што знаходзілася пад аховай дзяржавы, ратуша была ўзарвана па загаду гарадскіх улад. І калі нават вышукі В. Юшкевіча па гэтаму злачынству, надрукаваныя ў «Магілёўскай праўдзе» за 16.11.90 г., не далі дакументальных сведчанняў, хто загадаў, я думаю, што асноўны ініцыятар гэтага—ідэалогія генацыду супроць уласнага народа, заснаваная на антычалавечнасці і бескультур'і.

Але час зрушыўся. У 1979-84 гг. былі праведзены комплексныя гістарычныя, археалагічныя і архітэктурныя доследы. Дашчэнту знішчаны помнік пачаў ажываць, раскрываючы сваю гісторыю з кожным узмахам рыдлёўкі. Сёння мне, удзельніку тых раскопак ратушы, пастаянна згадваюцца падмуркі з цэглы, вапны ды валуноў, старажытнае тварыла, дзе гасілі вапну, дахоўку, кафлю, разнастайны керамічны і шкляны посуд, а таксама шэраг іншых рэчаў, якія, відаць, не раз трымалі ў руках старажытныя магілёўцы...



У выніку раскопак былі ўскрыты каля паловы будынка і рэшткі падмуркаў вежы. На падставе доследаў быў прыняты праект аднаўлення помніка і прыстасавання яго пад палац шлюбаў. І, як звычайна, праектная дакументацыя лягла на паліцы шафаў збіраць пыл. Але, нарэшце, быў створаны фонд «Ратуша», які сабраў некалькі дзесяткаў тысячаў рублёў. Пачалі нават будаваць падмуркі. На гэтым і скончылася.

Апошнія намаганні ўлад не прайшлі бясследна для помнікаў архітэктуры Магілёва. Былі пераробленны амаль усе культавыя будынкі, што спрыяла іх адраджэнню. Дайшоў час і да ратушы. З'явіліся добрыя, сумленныя майстры—работнікі малога прадпрыемства «Скіф-2», якія ўжо зарэкамендавалі сябе працамі на царкве Трох свяціцеляў і Мікалаеўскім комплексе, помніку грамадзянскай архітэктуры XVIII ст., а таксама былым зямельным банку. Дык можа і не трэба шукаць палякаў ці яшчэ кагонебудзь, каб запрасіць на рэстаўрацыю касцёла альбо драмтэатра? Можа і ў нас ёсць нягоршыя майстры, якія змогуць вярнуць твар старажытнаму гораду?

**Зміцер ЯЦКЕВІЧ,**
**Магілёў.**

## Людзі ахвяруюць на святую справу

На рахунак БСДГ у сталічным Заводскім аддзяленні Белпрамбудбанка працягваюць паступаць ахвяраванні на пабудову помніка вядомаму адраджэнцу, доктару гістарычных навук, прафесару, былому галоўнаму рэдактару выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», першаму старшыні сацыял-дэмакратычнай Грамады Міхасю Ткачову, які летась памёр.

Па сто тысяч рублёў пералічылі Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, праўленне Белкаапсаюза, выдавецтвы «Полымя» і «Беларусь», Слаўгарадскі гарсавет, Акцыянерна-камерцыйны банк «Беларусь», фірма «РЕНОВАТУМ». Больш значныя сумы пераказалі Рэчыцкі гідролізны завод, выканкамы Смаргонскага гар- і райсаветаў, фірмы «РЕСТА», «ВИА», АТ «Деметра», выдавецтва «Мастацкая літаратура», асацыяцыя «Белбалтарос».

Ахвяравалі на помнік па некалькі дзесяткаў тысячаў выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», фірма «Белая Русь», АТ «Кросны», МП «Залессе», Беларускі рэстаўрацыйна-праектны інстытут. 10 тысяч руб. перадаў Браслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей.

Да пачэснай справы далучыліся грамадскія арганізацыі. Сваю лепту ўнеслі Бараўлянская, Мастоўская, Дзяржынская суполкі Грамады, Жодзінская, Смаргонская, Баранавіцкая, Гарадоцкая, Навапалацкая, Пінская, Пухавіцкая і Лідская філіі партыі. Грошы пералічылі таксама Управа Сойму БНФ, Беларускі фонд культуры, таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, ББФ «Дзецям Чарнобыля», прафкам Светлагорскай ЦЭЦ.

Дзесяткі грамадзян Беларусі й іншых краін, у т. л. настаўнікі Жодзінскай СШ № 3, удзельнікі І з'езда беларусаў свету, прыхільнікі БСДГ, некаторыя дэпутаты парламента ахвяравалі свае ўласныя сродкі.

Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада выказала шчырую падзяку грамадзянам, прадпрыемствам ды арганізацыям, што ўнеслі грошы на будаўніцтва помніка.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

## Свет вакол нас

● Як мяркуецца, у гэтым годзе беспрацоўе ў Чэхіі дасягне 5%, а інфляцыя будзе ўтрымлівацца на ўзроўні 2—3 працэнтаў.

● У Польшчы дзейнічае 1500 прафесійных саюзаў, у тым ліку 200—агульнапольскіх. У іх працуе 23 тысячы штатных прафсаюзных дзеячоў, праца якіх аплочваецца з фонду прадпрыемства.

**Паводле заходніх мас медыяў падрыхтаваў М. МАРУДАЎ.**

# Там спрадвеку гучыць мая мова...

Ул. Караткевіч

## ЗАПАВЕТ КАРАТКЕВІЧА







Часам мне здаецца: чалавек гэты ўвасобіў у сабе ўсё тое, чаго так не стае сёння многім з нас, беларусаў, што згубілі паўнату крэўнага адчування Радзімы. Таго шчаслівага непадабенства рыс сваёй зямлі, свайго ладу жыцця, свайго лёсу, сваёй гісторыі, свайго шляху між народамі і, нарэшце, сваёй песні, свайго слова, без якіх чалавек назаўсёды пазбаўляецца права на сапраўднае шчасце, сапраўдную гармонію душы, тую жыватворную ласку сэрца, якія свяціліся ў гарманічным і непаўторным аблічы нашага слыннага і яшчэ так мала спасцігнутага намі паэта.

Так, Паэта, бо ўсё тое, што напісана Уладзімірам Караткевічам: яго раманы, аповесці, эсэ ці лісты да сяброў,—не кажучы ўжо пра яго паэзію, пранізана боскім святлом Веры і сардэчнага парыву чыстае душы, акрыленай нязбыўнай любоўю да пакутнай і святой нашай Зямлі, да чалавека на ёй.

Можа, усё гэта (ды, вядома ж, сваё асабістае адчуванне Караткевіча) дало падставы сказаць Васілю Быкаву пра яго: «Роўнага яму няма і наўрад ці ўжо будзе, замяніць яго ў нашай літаратуры не можа ніхто...».

Углядаючыся ў фотаздымкі, якія збераглі аблічча Караткевіча, нельга не здзівіцца пранізліваму святлу яго душы, якое з ранняга дзяцінства напаўняла яго дынамізмам радасці, творчае энергіі, тым знакам паўнаты шчодрага сэрца, якое вызначае генія. Калі ж уявіць, што толькі Слова магло адчыніць у яго душы і асвяціць той шчодры паток хараства і любові, які данёс нам яго як прарока, мы адчуем яго вагу і вышыню для паэта, а разам з тым ягоную святую зброю, з катораю выйшаў ён на арэну бітвы за адраджэнне нашае культуры.

**Там спрадвеку гучыць мая мова,**
**булатны клінок.**
**(«Беларуская песня»).**

Вось асноўны і непахісны аргумент яго спасцігшай сябе Веры—тут абшары мае душы, тут уладанні майго шчодрага сэрца і мае адзінае Любові, бо тут спрадвеку жыло наша Слова!

Ён рана зразумеў ратавальную сутнасць Слова, свайго слова, бо толькі пасвойму выказаная любоў—ад Бога, толькі адданасць сваёй Зямлі—вышэйшая ўдзячнасць Яму за далучэнне да вышэйшага дару —жыцця.

**Ты—наш край.**
**Ты—чырвоная груша над дзедаўскім домам,**
**Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная рацць.**
**Ты—наш сцяг, што нікому на свеце, нікому**
**Не дамо абсмяяць, апаганіць, забыць, ці мячом зваяваць.**
**(«Беларуская песня»).**

Святая святых—мова, недакранальная вышыня, і для тых, хто ці па неразуменню, ці з варожаю мэтаю імкнецца прынізіць яе на нашай зямлі, паэт бязлітасны:

**Праваслаўны або каталіцкі,**
**Ці які там твой будзе парог,—**
**Яе разам з матчынай цыцкаю**
**Даў табе ў твае вусны бог.**
**Пі і ведай: гіне ў праклятцях**
**І з дзярма павек не ўстае**
**Той, хто выплюнуў цыцку маці**
**Або злосна ўкусіў яе.**
**(«Мова»).**

І сапраўды, аб якіх яшчэ ісцінах ці святынях мае права гаварыць той, хто здрадзіў альбо не зразумеў мітуслівай душою першаасноў духу, хто рве святыя карані свайго адзінага і непаўторнага.

Сённяшнія ворагі беларушчыны на беларускай зямлі імкнуцца некага пераканаць у існаванні ў іх спустошаных душах нейкіх крытэрыяў сваё, надбеларускае «культуры», якую яны хацелі б «будаваць» за межамі вечных ісцін. Але ж

**Культура—справа мірных і любоўных,**
**Не катаў, не забойц, не дзікуноў...**
**(«Зямля дзядоў»).**

Паэт нібы ставіць кляймо ганьбы на душы тых, хто адцураўся ад усяго свайго і хто з пагардаю ставіцца да чыстых вытокаў, якім абавязаны гэтым светам:

**Хамы лічаць заўсёды «хамскім»**
**Матчыну песню і матчыну хату...**
**(«Калумбы зямлі незнаёмай»).**

Я зноў угдядаюся ў яшчэ дзіцячы твар—Караткевічу толькі 10. Але колькі абяцання ва ўжо рашучым твары, дзе свяцяцца парасткі творчае волі і стваральнага дабра да зямлі, якая нарадзіла яго. І якою выспелай гэтая добрая энергія святла з'яўляецца нам у яго засяроджаным аблічы ў 24. Гэта ўжо баец, пераканаы і непахісны чалавек, які назаўсёды збалансаваў у сабе разуменне і дабра, і зла, і велічы самых святых паняццяў, без якіх любая балбатня за веру, за культуру—пусты гук.

**І на іншых вяршынях суровых.**
**(Вера! Роўнасць! Свабода! Край!)**
**Ты струменьчык матчынай мовы,**
**Быццам маці, не забывай.**
**Ты забыў! Ну што ж, на дасвецці**
**Ты без сонца будзеш канаць...**
**(«Мова»).**

Такая яго вера.

Каторы ўжо раз углядаюся ў яго, мо самы яскравы фотапартрэт, дзе, быццам сонца, вялікай мудрасцю і дабрынёю пранізаны ягоныя вочы, яго ўсмешка, якая асвятляе толькі твар чалавека, здабыўшага сапраўдную цану сапраўдных чалавечых каштоўнасцяў. Каб лёгка і гэтак жа шчыра сустрэць гэты позірк, трэба раздзяліць з ім і яго Веру, і яго любоў да адзінае зямлі нашай, дзе ёсць усё, каб яднаць нас у адну моцную і добрую сям'ю.

**Сто тысяч год няхай вакол шумяць палі,**
**Сто тысяч год няхай вакол гудуць дубровы,**
**Пакуль гучыць вакол святая наша мова,**
**Пакуль ёсць беларусы на зямлі.**

Ён любіў і верыў, і ствараючы сваю Веру, завяшчаў яе ўсім нам.

**Алесь МЕМУС.**

## ЧАС ПРЫЙШОЎ

Доўгі час беларускі народ зневажалі. На працягу вякоў у беларусаў адбіралі разам з усім астатнім і яго родную мову, без якой і размовы не можа быць пра нацыянальную культуру. Гісторыя дала Беларусі шанц адрадзіцца. Трэба канчаткова замацаваць беларускую мову ў якасці афіцыйнай мовы. Але ў краіне параненйшаму пануюць антыбеларускія сілы. Каб пазбегнуць адказнасці за развал эканомікі, яны гатовы знішчыць нашу незалежнасць. Але беларускі народ рэальна ацэньвае сучасную сітуацыю. Рэспубліка Беларусь павінна імкнуцца да статуса нейтральнай дзяржавы. Зразумела, Рэспубліка Беларусь павінна стаць свабоднай, незалежнай краінай і абавязкова развіваць родную беларускую мову. Цяпер у беларусаў ёсць магчымасць пашырэння сферы ўжывання роднай мовы, развіцця нацыяльнай самасвядомасці. Здаецца, прыйшоў час узняць галовы і згуртаваць сілы, але мы так звыкліся са сваім баязлівым прыніжэннем, што і па сённяшні дзень застаёмся падатліва абыякавымі да таго, што нас павінна вызначаць як нацыю, як народ. Асобнаму чалавеку можна ўспрыняць іншую мову, жыць пад яе ўплывам і разумець свет. Але гэта немагчыма ні ў якой меры для цэлага народа. Беларуская мова з'яўляецца багатым радовішчам славянскіх слоў для беларусаў усяго свету. А беларусы жывуць у Амерыцы і Канадзе, побач у Расіі і ў далёкай Аўстраліі, і ў іншых краінах. І як дзеці прытуляюцца да роднай маці, так і беларусы ўсяго свету жадаюць прытуліцца да роднай мовы. Беларуская мова мае старажытнае паходжанне. Спрадвеку беларусы добра разумеюць рускую мову, бо гэта славянскія народы-суседзі. Украінцы, палякі, балгары і іншыя славянскія народы таксама могуць зразумець нас. Многія пакаленні нашых продкаў рыхтавалі сваіх дзяцей да будучага сямейнага жыцця. Родная беларуская мова была самай надзейнай апорай для захавання нацыянальных традыцый. Працавітыя беларускія сялянкі з маленства вучылі сваіх дзяцей роднаму слову. Спрадвеку мова перадавалася ад пакалення да пакалення. А ў нас нядаўна толькі тое і рабілі, што разбуралі створанае—змянялі назвы вёсак і гарадоў. А гэтымі назвамі карыстаўся народ стагоддзямі. Нават шыльды пісалі на рускай мове. Гэта была расплывістая пляма на чыстай вадзе крыніцы. Калі яе зняць—многае можна ўбачыць. Паступова нацыянальная мова і сімвалы, якія адлюстроўваюць нашу незалежнасць, займаюць сваё пачэснае месца. І напісанне нават некалькіх слоў на беларускай мове з'яўляецца добрым прыкладам. Згадзіцеся, што гэты прыклад у наш час заслугоўвае самай высокай ацэнкі.

Шмат цудоўных паэтычных твораў стварыў беларускі народ. Беларуская мова мае вялікі слоўнікавы запас. Незразумелае можна зразумець з цягам часу. Шматмоўе не для беларусаў у наш час. Беларускую мову трэба пачынаць вывучаць з першага класа і нават раней, як кажуць, у калысцы. І не падумайце, што я супраць іншых моў. Проста беларуская мова мала вывучалася да гэтага часу. Нацыянальнае адраджэнне немагчыма без роднай мовы. Крынічная чысціня і прыгажосць уласцівы беларускай мове.

Дзеці, размаўляйце па-беларуску дома і ў школе. Усе жыхары Рэспублікі Беларусь, вывучайце беларускую мову. Любіце родную мову, бо яна, нібы чыстая крыніца, дае нам сілы і радуе сэрца. Больш размаўляюць па-беларуску ў вёсках. А вясковага насельніцтва ўсяго трэцяя частка жыхароў Беларусі.

Мова можа аб'яднаць людзей незалежна ад нацыянальнасці. Людзі іншых нацыянальнасцей з дапамогай беларускай мовы будуць пераймаць жыццёвы вопыт беларусаў і толькі дзяржаўная мова дае магчымасць людзям іншых нацыянальнасцей, жывучы сярод беларусаў, авалодаць ведамі, убачыць свет так, як яго бачыць беларускі народ. У адваротным выпадку прадстаўнік іншай нацыянальнасці не можа зразумець гэты народ, а народ не зразумее яго.

Немагчыма аб'яднацца, калі людзі размаўляюць на розных мовах, не прызнаючы мову той краіны, дзе наканавана ім жыць.

Таму асноўнай мовай Рэспублікі Беларусь павінна быць абавязкова беларуская мова.

**Ягор КАСЯКОЎ.**

**МАЦЯРЫНСТВА** **(з вянка санетаў)**

*Пацвердзі мудрасць вечную прыроды,*
*Аддай вясковым могілкам паклон.*
*Хай будзе памяць светлая спакон,*
*І ўдзячнасць продкам будзе назаўсёды.*

*Жыві, змагайся, думай і твары,*
*Жыццё—адно кароткае імгненне.*
*Яго працягне іншых пакаленне,*
*Прадоўжыць шлях і ярка азарыць.*

*Вясна расквеціць новыя сады,*
*Нібы бацькоў шчаслівыя гады,*
*Што ў жыццё дзяцей пераліліся.*
*Не наракай на цяжкасці і лёс,*

*Працуй, ствара́й і мудрасці вучыся,*
*Спачынак потым знойдзеш ля бяроз...*

**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**







На здымках А. Лакоткі: працы Л. Сянько «Белая Русь» (уверсе злева), «Багалюбава» (унізе), габелен І. Барысевіч «Ірысы».

## Настаўніцкі экзамен

**Упершыню ў горадзе зладжана выстава мастацкіх твораў нашага настаўніцтва.**

У абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў праходзяць своеасаблівы глядацкі экзамен педагогі школаў Віцебшчыны. І здадзены ён, пэўна, будзе на «выдатна»: у экспазіцыі прадстаўлены неблагія графічныя працы, акварэлі, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Прычым некаторыя выстаўленыя карціны аматар мастацтва можа «ацаніць» і рублём. Па даволі ўмераных коштах. Праўда, дзеля гэтага трэба паспяшацца: выстаўка чынная да канца месяца.

**Ю.С.**

*Прытча*

**Аркадзь ШУЛЬМАН**

## Клетка

Маленькая птушка ад нараджэння сядзела ў клетцы. Яна чула, як увесну перакліканюцца жураўлі, пракладваючы свой вечны шлях да гнёздаў, як летнім ранкам радасна спяваюць жаваранкі, як заліваюцца трэлямі салаўі. Яна рвалася на волю, але вакол былі толькі металічныя краты. Птушка ўдаралася аб іх ды знясіленая падала на дно клеткі.

Праходзілі месяцы й годы. Птушка ўсё яшчэ марыла пра волю, але ўжо болей не імкнулася вонкі.

І вось аднойчы ў яе з'явіўся новы гаспадар. Ён сказаў:

—Птушкам трэба лятаць.

І адчыніў дзверцы клеткі.

Птушка выйшла, набрала паветра дый узляцела. Зрабіла колькі кругоў і зноўку села ля знаёмых дзверцаў.

—Чаму ж ты не адлятаеш?—спытаў гаспадар.

—Каб можна было б уляцець разам з клеткай,—адказала птушка,—то я б так і зрабіла. Без клеткі адчуваю сябе сіратой.

**Пераклаў з рускай С. Ю.**

## Вясёлы глобус

Сямігадовая Маргіт чытае кніжку.

Маці:

—Што ты чытаеш, дачанька?

Маргіт:

—Кнігу аб выхаванні дзяцей. Хачу ведаць, ці правільна мяне выхоўваюць і ці не праявяцца пазней агрэхі ў маім выхаванні.

## Восень. «Лістапад». Песні

Восеньскім вечарам 6 лістапада ў сёмы раз адспявае фестываль аўтарскае песні «Віцебскі лістапад». На свята прыедуць выканаўцы з розных мясцінаў, іншых краін. Разам з гасцямі выступяць нашыя барды І. Высоцкі, Т. Ліхавідава, У. Цвіка, А. Сіпараў, М. Радыёнаў, Э. Муляр, А. Шмідт, В. Залеская, тэатр «Шын».

**К. СТУСЬ.**




Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

Галоўны рэдактар Барыс **ХАМАЙДА**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Валянцін **АРЛОЎ**
Хрыстафор **ЖАЛЯПАЎ**
Васіль **ІГНАЦЕНКА**
Юры **ЛАЎРЭНАЎ**
Ларыса **МІХНЕВІЧ**
Міхась **ПАЎЛАЎ**
Уладзімір **ПЛЕШЧАНКА**
Леанід **ТАМАРОВІЧ**
Ігар **ЦІШКІН**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выдаецца з кастрычніка 1991 г.**

**Выходзіць штотыднёва па сярэдах**

Нумар падпісаны да друку 26.10.1993 г. у 17.15.

Наклад 1500 экз.

**Кошт 10 руб.**




*Тэатральнае жыццё*

## Успомнім слова «бенефіс»



Аднавіць добрую традыцыю акцёрскага бенефісу ўзяўся акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. На «ролю» бенефіцыянта выбраны нядаўні юбіляр, 50-гадовы народны артыст Беларусі Яўген Шыпіла.

З маналогаў, сцэн лепшых спектакляў, у якіх іграў акцёр, узнік своеасаблівы монаспектакль «Яшчэ не вечар...» Пасля яго коласаўцы пакажуць капуснік, дзе вобразы, створаныя Шыпілам, ажывуць у інтэрпрэтацыі ягоных калегаў. «Маем надзею,—сказала нашаму карэспандэнту загадчык інфармацыйнай часткі тэатра Святлана Дашкевіч,—гледачы адкрыюць для сябе нямала новага, бо народны артыст рэспублікі будзе прадстаўлены на імпрэзе і як кінаакцёр, і як знаходлівы апавядальнік, і нават як паэт...»

* * *

Шаноўныя спадары! Хто мае магчымасць і жаданне, можа ўнесці грашовыя ахвяраванні на пачэсную справу—правядзенне першага за 85 гадоў бенефісу ў Віцебску. Калі ласка, пераказвайце сродкі на рахунак Фонда сацыяльнай абароны акцёраў тэатра імя Я. Коласа № 000700506 у Галоўным упраўленні Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, код МФО 150801006 з паметкаю «Бенефіс народнага артыста Беларусі Я. Шыпілы».

**К. ЗАЧНІК.**

## МОВАЙ ЛІЧБАЎ

**Канфлікты ў былой СФРЮ (не ў Югаславіі, бо такая існуе!) выклікаюць цікавасць многіх. Сёння нам бы хацелася ў нечым задаволіць гэты інтарэс.**

**Боснія і Герцагавіна** сталася незалежнаю 3 сакавіка 1992 года. Яе плошча—51,1 тыс. км$^2$. Насельніцтва—4,3 млн. чал. (43,7%—мусульмане, 31,4%—сербы, 17,3%—харваты, 7,6%—іншыя нацыянальнасці). Сталіца—Сараева.

**Югаславія** (Сербія і Чарнагорыя) аб'явіла пра стварэнне рэспублікі 27 красавіка 1992 года. Ейная плошча складае 102 тыс. км. Насельніцтва—10,4 млн. У Сербіі—65,8% сербаў, 17,2%—албанцаў, 3,5%—венграў, 2,4%—мусульманаў, 1,4% румынау, 1,1%—харватаў, 8,6%—іншых нацыянальнасцяў. У Чарнагорыі—61,8% насельнікаў—чарнагорцы, 14,6%—мусульмане, 9,3—сербы, 6,6%—албанцы, 6,7%—іншыя нацыянальнасці. Сталічны асяродак—Белград.